**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 52 (873) 29 снежня 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Сардэчна віншуем з Новым 2017 годам!

Штотыднёвая газета vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае




Фота Ул. Скрабатуна.

## У Беларусі 2017 год аб'яўлены Годам навукі

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ "Аб аб'яўленні 2017 года Годам навукі", паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе беларускага лідара. Асноўнай мэтай гэтага рашэння з'яўляецца павышэнне ролі навукі ў выкананні задач сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны, стварэнне спрыяльных умоў для захавання і развіцця навуковага патэнцыялу, фарміраванне міжнароднага іміджу Беларусі як краіны з высокім узроўнем інтэлектуальнага і чалавечага капіталу. Ураду даручана з удзелам Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, аблвыканкамаў, Мінскага гарвыканкама распрацаваць і зацвердзіць рэспубліканскі план мерапрыемстваў па правядзенні ў 2017 годзе Года навукі, які адлюстроўвае ўзаемадзеянне навукі з сацыяльнай сферай, галінамі эканомікі, інавацыйную дзейнасць, міжнароднае навукова-тэхнічнае супрацоўніцтва. Рэалізацыя плана мерапрыемстваў будзе садзейнічаць развіццю айчынных навуковых школ, вузаўскай і галіновай навукі для забеспячэння ўстойлівага эканамічнага росту краіны, прымнажэнню навуковага патэнцыялу Беларусі, падтрымцы творча мыслячых вучоных і спецыялістаў, іх патрыятычнаму выхаванню.

*БелТА.*



## З Калядаў лавіць мянтуза будзе забаронена

**З 25 снежня ў Беларусі ўводзіцца забарона на вылаў мянтуза звычайнага, лавіць гэтую рыбу можна будзе толькі з пачаткам вясны.**

Мянтуз – гэта адзіны прадстаўнік прэснаводнага сямейства трасковых. У нашай краіне нераст у яго пачынаецца канца снежня і цягнецца па люты пры тэмпературы вады каля 1-3 градусаў Цэльсія.

За здабычу мянтуза ў забароненыя час прадугледжаны штраф у памеры да 1050 рублёў (1150 рублёў з 1 студзеня 2017 года). Акрамя таго, за кожную злоўленую рыбіну ў гэты перыяд прыйдзецца кампенсаваць шкоду прыродзе ў трайным памеры – 567 рублёў (621 рубель), паведамляе прэс-служба Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.

*Сяржук Серабро.*



ISSN 2077-8023



**Пастаўскі раён**

# Завод будзе жыць

■ Станіслаў Раманчук.

**З вялікай трывогай чакалі наступлення Новага года работнікі аднаго з буйнейшых у Пастаўскім раёне завода радыёкампанетаў “Беліт”.**

На прадпрыемстве, якое ўваходзіць у холдынг “Гарызонт”, восенню працавала 265 чалавек, а ў лепшыя гады, за савецкім часам яго штат складаў да 1700 рабочых і служачых. З-за падзення попыту на бытавую тэхніку пастаўчане даволі паспяхова заняліся выпускам тэхнічнай сурветкі, мелі выручкі за 3 кварталы ад яе экспарту амаль 1,8 млн долараў. Аднак з-за змен у мытным закадаўстве для рэзідэнтаў СЭЗ “Віцебск” завод на Пастаўшчыне апынуўся пад пагрозай закрыцця. Трывогу яшчэ летам забіла кіраўніцтва раёна і самога прадпрыемства. Звярталіся ў розныя інстанцыі, папрасілі падключыцца да вырашэння гэтага пытання першага віцэ-прэм’ера ўрада Васіля Мацюшэўскага. Крыху пазней заняўся вырашэннем гэтай праблемы новы мясцовы дэпутат беларускага парламента Сяргей Зямчонак. Самі работнікі завода таксама калектыўна сталі прасіць ім дапамагчы розныя інстанцыі. Адной з першых асвяціла існаваўшую праблему на сваіх старонках старэйшая беларуская газета “Наша Ніва”. Яе супрацоўнікам было вельмі прыемна днямі атрымаць ад пастаўчан падзяку за дапамогу, якую падпісалі больш 130 завадчан. Выйсце з сітуацыі было знойдзена дзякуючы намаганням генеральнага дырэктара Юрыя Прэдка, які пераканаў дзяржорганы пайсці насустрач заводу. Сотні людзей не засталіся без працы, а гэта самае галоўнае у перыяд рэцэсіі.

**Мёрскі раён**

# Каб пераадолець адставанне

■ Чэслаў Якубовіч.

**Для глыбінкі прыход стратэгічных інвестараў у наш няпросты час мае важнейшае значэнне для яе далейшага лёсу.**

Вось і ў Мёрскім раёне многія маладыя людзі спадзяюцца застацца жыць і працаваць дома, калі тут запрацуе новы сучасны металапракатны завод. Віцэ-прэм’ер урада Беларусі Уладзімір Сямашка днямі пабываў на яго будаўнічай пляцоўцы і ў рабочай бытоўцы правёў важную нараду з адказнымі работнікамі розных служб і структур. Старшыня савета дырэктараў “ММПЗ-груп” Аляксей Кавалёнак паведаміў аб падпісанні ўзгодненага з замежнымі партнёрамі крэдытнага дагавора, адкрыцці паўнацэннага фінансавання будоўлі. Як чакаецца, са студзеня на гэтым аб’екце работы будуць весціся круглыя суткі сіламі да 400 будаўнікоў, што дазволіць ліквідаваць дапушчанае адставанне ад графіка. Уся дакументацыя на будучы лістапракатны цэх гатова і прайшла дзяржэкспертызу. Сюды падвялі аўтамабільныя дарогі, газавікі практычна поўнасцю выканалі свой участак работ, таксама і чыгуначнікі прыступілі да ўзвядзення неабходнай каляі. На будаўнічай пляцоўцы з’явіліся дзве электрападстанцыі, мясцовасць выраўнялі, вынялі грунт пад абсталяванне завода. Намеснік прэм’ер-міністара даручыў пад асаблівы кантроль узяць узвядзенне жылых дамоў для саміх будаўнікоў, каб потым пасля касметычнага рамонту перадаць завадчанам. Для іх, дарэчы, у другой палове 2017 года пачнецца будаўніцтва і шматкватэрнага жылога дома. У пратакол даручэнняў былі ўнесены і іншыя задачы па ўзвядзенні важнага для краіны прадпрыемства магутнасцю да 665 тысяч тон белай бляхі ў год. Яго першая чарга можа запрацаваць ужо ў 2018 годзе.

**Браслаўскі раён**

# Новы этап развіцця

■ Кастусь Александровіч

**У сучаснай медыцыне многае вырашае матэрыяльная база, а яшчэ болей кваліфікацыя медработнікаў і існаваўшыя раней традыцыі.** Невыпадкова чарговая выязная калегія ўпраўлення аховы здароўя Віцебскага аблвыканкама прайшла нядаўна ў Браславе. Там пасля пленарнага пасяджэння калегі з рэгіёнаў у актавай зале гімназіі ўрачыста адзначылі 110-годдзе з часу стварэння ў азёрным краі земскай бальніцы. Яе першым галоўным урачом быў знакаміты выпускнік Мюнхенскага медуніверсітэта Станіслаў Нарбут, які лячыў людзей паўстагоддзя і зрабіў лячэбніцу адной з лепшай на нашых землях. Да юбілею ў райбальніцы пасля капрамонту ўрачыста адкрылі абноўленае аддзяленне, на базе якога неўзабаве адкрыецца межраённы рэабілітацыйны цэнтр для неданошаных дзетак ва ўзросце да года. Дагэтуль тут дзейнічаў падобны ляэбна-кансультацыйны хірургічны цэнтр для меддапамогі жыхарам пяці суседніх раёнаў. Мясцовых медыкаў прызналі лепшымі ў Прыдзвінні па развіцці медпаслуг. З 77 мясцовых урачоў 32 маюць першую і вышэйшую катэгорыі, тут працуе таксама кандыдат меднавук, больш палова медсясцёр і фельдшараў маюць высокія катэгорыі. Медыкі асвоілі па 2-3 сумежныя спецыяльнасці, многія з урачоў валодаюць і УЗІ-дыягностыкай, вядуць электронныя карты сваіх пацыентаў. Гатовы ў райбальніцы выпісваць і электронныя рэцэпты. Дзякуючы іх узроўню падрыхтоўкі калектыву перадалі яшчэ сучасны фібрагастракалонаскоп, атрымае бальніца і найноўшы апарат для лячэння хвароб сэрца і аказання неўралагічнай дапамогі.

# Аб самым надзённым

## АБ’ЯЎЛЕНАЯ БАРАЦЬБА З ІМПАРТАМ ЯШЧЭ БОЛЕЙ МОЖА ЗМЕНШЫЦЬ АСАРТЫМЕНТ БЫТАВОЙ ТЭХНІКІ ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Насельніцтва ў бліжэйшы час можа чакаць адчувальнае зніжэнне асартыменту шэрагу прадаваемых тавараў, а магчыма і іх падаражанне. Нашы вытворцы аналагічнай тэхнікі ад “Гарызонта” да “Атланта” прайграюць канкурэнтную барацьбу падобным замежным фірмам і прывыклі да таго, што не рынак, а чыноўнік у Беларусі вызначае, што павінны купляць людзі.**

Неяк непрыкметна праляцеў і гэты няпросты для Беларусі 2016 год, калі ў нас абнавіўся парламент, павысіўся пенсійны ўзрост, а ў сярэдзіне лета людзі атрымалі на рукі новыя грошы і ўпершыню пасля працяглага перапынку яшчэ і дробныя манеты. У снежні традыцыйна па ўсёй краіне пачаліся перадкалядныя кірмашы, а зніжкі рознічных цэн на распрадажах тавараў да навагодніх свят на асобныя віды ўпершыню, як на Захадзе, сталі дасягаць нават 70 %. З аднаго боку – гэта радуе, аднак становіцца сумна, што народ бяднее відавочна на вачах. Па дадзеных Белстата, з 3712 асноўных дзяржпрадпрыемстваў краіны (на іх працуе 1,5 млн. беларусаў) кожнае пятае стала стратным.

Найбольш складанае становішча ў рэальным сектары, на жаль, у нас на Віцебшчыне. У Прыдзвінні зараз амаль трэць заводаў і фабрык стратныя, калі ў Мінску такіх толькі 16,5 %, што таксама шмат. Без правядзення рэформ краіна і мы з вамі будзем расплачвацца і надалей нізкім узроўнем жыцця, бо не будзе росту эканомікі. Між тым, сёлета восенню амаль кожны другі суайчыннік (49,8 %) зарабляў меней 350 рублёў, расце колькасць малазабяспечаных сем’яў. Гэта сумна, што за рысай беднасці ў Беларусі жывуць амаль 700 тысяч чалавек, найбольш беднякоў цяпер у глыбінцы і ў невялікіх райцэнтрах. Нагадаем, што сёлета з улікам росту цэн рэальныя даходы беларусаў знізіліся на 7,2 %.

Тэндэнцыя, што і казаць сумная, і працягваецца яна яшчэ са студзеня 2015 года. Нам паабяцалі з новага года традыцыйнае павышэнне камунальных паслуг на 5 долараў у месяц. Здзівіла і сталічная ДАІ, якая захацела зрабіць платным уезд у цэнтр Мінска. Увогуле ў гэтым ведамстве не ўсё гладка. Пасля забойства п’яным маёрам, начальнікам Баранавіцкай ДАІ жанчыны на дарозе міністр МУС, генерал-лейтэнат Ігар Шуневіч пацвердзіў, што з 700 супрацоўнікаў Дзяржаўтаінспекцыі трэць не прайшлі праверкі дэтэктарам хлусні і будуць звольнены з органаў.

Акрамя гэтай крыху шакіравала і іншая навіна апошніх дзён, калі нашы ўлады аб’явілі чарговую барацьбу на гэты раз з імпартнай тэхнікай. Як вядома, Савет Міністраў Беларусі сваёй пастановай ад 21 кастрычніка ўвёў з 1 лютага 2017 года абавязковую сертыфікацыю імпартнай бытавой тэхнікі. Яе абавязаны праходзіць усе завозімыя тэлевізары, халадзільнікі, маразільнікі, кафеваркі, тостэры, мікрахвалевыя печы, іншыя тавары для дому, а з восені наступнага года - пральныя, посудамыйныя і сушыльныя машыны. Аж дух захоплівае, які клопат праяўляецца пра роднага спажыўца, паколькі на працэс праверкі тэхнікі адводзіцца да 25 дзён.

Зразумела, працэдура гэта будзе платнай, а за адзін узор завозімай тэхнікі кампанія-пастаўшчык павінна будзе выкласці да 7200 рублёў, альбо 3600 USD у пераліку. Дарэчы, акрамя вядомых заходніх марак бытавой тэхнікі сертыфікацыя распаўсюджваецца і на тавары, нават выробленыя ў Расіі, адкуль сёлета за 9 месяцаў было ўвезена ў Беларусь 5 млн. штук адзінак электратэхнікі. Вось вам і механізм дзеяння агульнага рынку прааславутага Мытнага саюза на прасторах ЕАЭС. Нічым іншым, як чарговым штучным бар’ерам у гандлі паміж нібыта саюзнікамі, гэту меру трэба называць.

Зразумела, чаму беларускія ўлады пайшлі на такі непапулярны і абсурдны крок, які можа мець сумныя наступствы для айчынных спажыўцоў. Насельніцтва ў бліжэйшы час можа чакаць адчувальнае зніжэнне асартыменту шэрагу прадаваемых тавараў, а магчыма і іх падаражанне. Нашы вытворцы аналагічнай тэхнікі ад “Гарызонта” да “Атланта” прайграюць канкурэнтную барацьбу падобным замежным фірмам і прывыклі да таго, што не рынак, а чыноўнік у Беларусі вызначае, што павінны купляць людзі. Праўда, расійская асацыяцыя вытворцаў і прадаўцоў электратэхнікі і камп’ютараў напісалі скаргу І-му віцэ-прэм’еру ўрада РФ Ігару Шувалаву пра тое, што беларусы пайшлі на парушэнне еўразійскага заканадаўства. Гэты працэс, ёсць надзея, што можа быць спынены.

У іншым выпадку нас з вамі можа чакаць тое, што апусцеюць полкі магазінаў бытавой тэхнікі, альбо цэны на тавары могуць вырасці. Беларускі народ і так даволі бедны, але ён, як заўсёды, паспрабуе выкруціцца. Суайчыннікам прыйдзецца часцей ездзіць за падобнымі пакупкамі за граніцу, у тую ж Расію, адкуль стануць цягаць і прадаваць такія тавары прадпрымальныя людзі. У Беларусі штогадовы аб’ём гэтага рынку электронікі некалькі соцень мільёнаў долараў, але гэта толькі 5 % ад агульнага рынку Мытнага саюза.

Расійская прэса папярэджвае, што калі ў беларускім урадзе не адумаюцца і не адменяць сваё рашэнне, то з лютага наступнага года скароцяцца альбо поўнасцю спыняцца пастаўкі расійскай бытавой тэхнікі ў нашу краіну.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 29.12.16 | | | | Пятніца 30.12.16 | | | | Субота 31.12.16 | | | | Нядзеля 01.01.17 | | | | Пан. 02.01. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -3 | -3 | -4 | -3 | 0 | 0 | -1 | 0 | 0 | 0 | 0 | +1 | +1 | +2 | +1 | +1 | +2 | +1 | 0 |
| Ціск | 760 | 762 | 762 | 761 | 759 | 757 | 756 | 754 | 752 | 750 | 748 | 746 | 744 | 742 | 740 | 738 | 737 | 735 | 735 |
| Вецер м/сек | 4 Пн-У | 2 Пн-У | 2 Пд-З | 3 Пд | 4 З | 4 З | 3 З | 4 З | 4 З | 6 Пд-З | 7 Пд-З | 5 З | 7 Пд-З | 7 Пд-З | 7 Пд-З | 7 Пд-З | 8 Пд-З | 5 З | 4 Пн-З |
| Вільготнасць | 90 | 90 | 87 | 92 | 96 | 95 | 96 | 94 | 96 | 95 | 96 | 95 | 97 | 96 | 96 | 96 | 96 | 97 | 91 |

## Дзень за днём

**З-за затрымак тэрмінаў узвядзення кошт будаўніцтва БелАЭС вырасце яшчэ на 675мільёнаў долараў. Да 23 рублёў вырасце з 1 студзеня базавая велічыня. Амаль на 20 % скараціліся ў Беларусі за год аб'ёмы будаўніцтва. У сярэдзіне лістапада 2017 года ў Беларусі пачнецца кампанія па выбару дэпутатаў мясцовых Саветаў. У Беларусі вырасла да 159 тысяч колькасць сем'яў, якія жывуць за рысай беднасці. Больш за 5 тысяч новых кватэр засталіся непрададзенымі ў Мінску. МАК пазбавіў за допінг 8 медалёў беларусаў на Алімпіядах у Пекіне і Лондане. З-за ранняй зімы гарналыжныя цэнтры краіны адкрылі сезон.**

# Важнейшыя навіны свету

**Сірыя.** Глава ЦРУ ЗША Джон Брэнан заявіў, што за масавую гібель мірных жыхароў краіны ў ходзе аперацыі вакол Алепа панясуць адказнасць рэжым Б. Асада і Расія.

**Англія.** Прэм'ер-міністр Тэрэза Мэй заклікала сусветную супольнасць узмацніць моцны ціск на Расію за бесчалавечныя бамбардзіроўкі ў Сірыі па невінаватых людзях.

**Турцыя**. Крэмль не чакаў заявы прэзідэнта Р. Эрдагана аб тым, што туркі ўвайшлі ў Сірыю, каб ліквідаваць праўленне жорсткага тырана Асада, які тэрарызуе свой народ.

**Егіпет.** Адзін з вядучых арабскіх палітолагаў С. Наумі заявіў, што і пасля падзення Алепа канфлікт у Сірыі будзе працягвацца вельмі доўга, вырасце паток уцекачоў.

**Украіна**. Над 4-м энергаблокам Чарнобыльскай АЭС устанавілі новы саркафаг вагой звыш 31 тыс. тон коштам 2 млрд. еўра, ён абароніць ад радыяцыі на працягу 100 гадоў.

**Куба.** Многія былыя сябры і саюзнікі Ф. Кастра, уключаючы Пуціна, не прыехалі на пахаванне галоўнага рэвалюцыянера краіны, а прыслалі сваіх прадстаўнікоў.

**ЗША.** Вучоныя краіны і іх калегі з Еўропы пасля вывучэння ДНК 105 тысяч чалавек выявілі асноўны ген, які рэгулюе спажыванне алкаголю ў арганізме людзей.

**Украіна.** Глава МЗС П. Клімкін пацвердзіў, што краіна не мае патрэбу ў дапамозе Беларусі ў арганізацыі выбараў на Данбасе, пытанне змены Мінска для перамоў не стаіць.

**Расія.** Глава МЗС РФ С. Лаўроў заявіў, што Масква не дапусціць з'яўлення ў Данбасе і на расійска-украінскай граніцы ніякіх міратворчых ваенных місій АБСЕ ці іншых структур.

**Бельгія.** ЕС асудзіў яшчэ два расстрэлы асуджаных у Беларусі і заклікаў яе ўлады адмовіцца ад пакарання смерцю, якое нідзе болей не прымяняецца ў Еўропе і ў СНД.

**Польшча.** У выніку землятрусу сілай 4,5 балы на захадзе краіны ля горада Палькавіцы абрушылася шахта, загінулі 4 гарнякі, яшчэ 8 былі паранены, лёс 4-х быў невядомы.

**Філіпіны.** У горадзе Мараві на востраве Мінданао побач з картэжам прэзідэнта краіны Р. Дутэртэ ўзарвалі выбухавае прыстасаванне, загінула адразу 9 супрацоўнікаў ягонай аховы.

**Расія.** Адыёзны журналіст У. Салаўёў паскардзіўся, што падчас паездкі ў Беларусь з ім адбываліся незразумелыя з'явы і адчуваў, што сачылі людзі з КДБ і не ўсе яго любяць.

**Ватыкан.** З нагоды заканчэння юбілейнага года Міласэрнасці папа Рымскі Францыск дазволіў святарам свету адпускаць грахі аборту і ўстанавіў Сусветны дзень бедных.

**Калумбія.** З-за дрэннага надвор'я ў краіне разбіўся самалёт з адным з вядучых бразільскіх футбольных клубаў, выжылі толькі 6 чалавек з 72 пасажыраў і 9 членаў экіпажа.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Міністр эканомікі У. Зіноўскі назваў "крайне цяжкай" задачу выйсці ў 2017 годзе ў Беларусі на сярэднія зарплаты 500 долараў з цяперашніх 370 USD у месяц.

**Баранавічы.** Да 7 гадоў турмы пагражае ўжо былому начальніку мясцовай ДАІ маёру А. Ваўкавыцкаму, які моцна п'яны не на службе збіў насмерць 36-гадовую жыхарку Слуцка.

**Брэст.** Адразу дзве кітайскія кампаніі ZIN і Uchan-Chanoy пачалі перамовы аб адкрыцці ў горадзе ля польскай граніцы лагістычнага цэнтра для дастаўкі тавараў у Еўропу.

**Мінск.** Пара ўжо задумацца, як заявіў эканаміст Л. Заіка, як будзем жыць далей, бо па ўзроўні ВУП на душу насельніцтва Беларусь вярнулася на ўзровень 1991 года.

**Кобрын.** З-за збяднення насельніцтва на мясцовым рынку ўжо сотні людзей сталі набываць тавары і адзенне ў растэрміноўку на некалькі месяцаў, аб'ёмы гандлю ўпалі.

**Мачулішчы.** За забойства двух і болей асоб выканалі смяротны прыгавор супраць 31-гадовага жыхара гарпасёлка С. Хмялеўскага, перад ім быў расстраляны І. Кулеш з Ліды.

**Мінск.** Зараз, калі Арменія атрымала ў РФ комплексы "Іскандэр", як пацвердзіў ваенны эксперт А. Алесін, Баку зацікаўлены купіць у нас рэактыўныя сістэмы залпу "Паланез".

**Буда-Кашалёва.** На глебе рэўнасці п'яны 49-гадовы мужчына падпаліў сваю сужыцельку на 2 гады за яго маладзей. Яна памерла. Падобны выпадак у раёне здарыўся за 3 дні перад гэтым.

**Мядзель.** Міліцыя затрымала 21-гадовую дзяўчыну, якая прымусіла сваю знаёмую, 17-гадовую навучэнку каледжа, заняцца прастытуцыяй за доўг у суме 30 рублёў.

**Мінск.** Галоўны трэнер зборнай Беларусі па футболе А. Хацкевіч параіў маме мінчанцы адключыць хлуслівыя расійскія тэлеканалы, бо пра сітуацыю ва Украіне яны маняць.

**Бабруйск.** Адзін з баевікоў "ЛНР", 43-гадовы камандзір узвода разведкі С. Бондар прызнаўся радыё "Свабода", што беларускія супрацоўнікі КДБ з сімпатыяй ставяцца да іх.

**Мінск.** Упершыню за апошнія 100 гадоў на праваслаўнай навуковай канферэнцыі не толькі маліліся за Мураўёва-Вешальніка, але і апраўдалі забойства 8 ксяндзоў у Беларусі.

**Брэст.** Доктар навук, архітэктар І. Лаўроўская дабілася, каб у гарадской маршрутцы знялі георгіеўскую стужку, якая стала сімвалам адраджэння расійскай імперыі і баевікоў "ДНР".

**Гатава.** Пасля прылёту з ЗША міліцыя затрымала праваслаўнага святара К. Бурыкіна нібыта за захоўванне зброі, у яго на плячах наколка свастыкі, у доме люстра са свастыкай.

**Мінск.** На з'ездзе праўладнага Саюза пісьменнікаў назвалі прадукцыю выдавецтва "Логвінаў" "пошлятиной", літаратараў з не "таго саюза" прыраўнялі да фашыстаў.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Сістэма электронных рэцэптаў укаранёная па ўсёй Віцебскай вобласці



■belta.by

**Сістэма электроннага рэцэпту ўкаранёная ва ўсіх установах аховы здароўя Віцебскай вобласці. Пра гэта паведаміў журналістам начальнік упраўлення аховы здароўя аблвыканкама Юрый Дзяркач, адказваючы на пытанне карэспандэнта БЕЛТА.**

Электронны рэцэпт мяркуе выдачу індывідуальнай карткі, падобнай на дысконтную, з дапамогай якой у аптэцы на касе высвечваюцца тыя прэпараты, якія пакупніку прапісаў доктар. Для гэтага лекары перадаюць інфармацыю па прызначэннях для кожнага свайго пацыента ў электронную базу дадзеных аптэк РУП «Фармацыя». «Поўны пераход на электронны рэцэпт вызваляе людзей ад неабходнасці хадзіць да ўрача для атрымання яго папяровага варыянту. А мы па зваротнай сувязі атрымліваем інфармацыю: атаварыць рэцэпт ці не, гэта значыцьлечыцца пацыент ці не. На цяперашні момант Віцебская вобласць цалкам падключана да электроннага рэцэпту. Мы ўжо насычаем насельніцтва электроннымі карткамі. Іх выдаюць лекары на прыёме. Першыя карткі з'явіліся ў нашых тэрапеўтаў год таму, а цяпер паступова інтэгравалі гэтую праграму для ўсіх раёнаў» - растлумачыў Юрый Дзяркач. Да сістэмы падключаюцца і прыватныя аптэкі, аднак у сетцы "Фармацыя" па электронным рэцэпце дзейнічае яшчэ і дысконт. У выпадку, калі ёсць выбар паміж падобнымі па дзеянні, але рознымі па кошце прэпаратамі, лекар агаворвае свой выбар з пацыентам. «Мы распрацавалі схемы лячэння, асабліва артэрыяльнай гіпертэнзіі, з прэпаратамі больш нізкімі ў кошце, гэта значыць з улікам фінансавых магчымасцяў пацыента, але не ў шкоду якасці лячэння», - дадаў Юрый Дзяркач. У электронны рэцэпт могуць закладваць любыя прэпараты: і тыя, што прымаюцца «хронікамі» рэгулярна, і неабходныя, напрыклад, пры вірусным захворванні, то ёсць нават без рэцептурнага водпуску. Напрыклад, сёння Юрый Дзяркач прыняў удзел ва ўрачыстым адкрыцці першай амбулаторыі лекараў агульнай практыкі для абслугоўвання дарослага насельніцтва новага мікрараёна Білева. На мерапрыемстве начальнік упраўлення ўручыў мэру Віцебска Віктару Нікалайкіну яго персанальны электронны рэцэпт, у які ўжо ўключаны прэпараты, рэкамендаваныя для прафілактыкі грыпу.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** Яшчэ на 0,5 млн. тон у 4-м квартале зменшыліся пастаўкі расійскай нафты на "Нафтан" і Мазырскі НПЗ, на месяц два заводы атрымоўваюць толькі 1 млн. тон нафты.

**Віцебск.** На мясцовай бройлернай птушкафабрыцы адкрылі свой новы сучасны завод па вытворчасці да 30 тон камбікармоў у гадзіну на абсталяванні з Германіі і Іспаніі.

**Мёры.** На выязным прыёме старшыня камітэта Дзяржкантролю Беларусі Л. Анфімаў разглядзеў звароты 9 грамадзян і просьбу нарэшце здаць доўгабуд – новую райбальніцу.

**Шаркаўшчына**. Былога главу раёна з 1999 па 2012 гады, а потым дэпутата парламента М. Морхата прызначылі гендырэктарам аграхолдынга Глыбоцкага камбікормавага завода.

**Лепель.** Глава вобласці М. Шарстнёў не прадоўжыў кантракт пасля 6 гадоў працы дырэктару КУПСХП "Баброва" В. Храмцову, якое ўрад Беларусі прызнаў банкрутам.

**Орша.** Генштаб РФ загадаў летам 2017 года разгарнуць на Смаленшчыне ля граніцы з Беларуссю новую мотастралковую дывізію ў складзе 1-й гвардзейскай танкавай арміі.

**Дуброўна.** Раніцай у вёсцы Ляхаўка загарэўся дзіцячы сад, пацярпелых не было, бо 6 дзяцей адправілі на прагулку, але агонь знішчыў дах, маёмасць, прашкодзіў сцены і столь.

**Сянно.** Судраёна пакараў двух пажылых вясковых бухгалтараў 6 гадамі турмы з канфіскацыяй маёмасці за крадзёж з гаспадарак тавараў і прадуктаў на 1,5 млрд. рублёў.

**Полацк.** Адзін з мясцовых бізнесменаў у свой дзень нараджэння падараваў грузавы мікрааўтобус Volkswaqen прытулку для бяздомных жывёлін у пасёлку Баравуха.

**Докшыцы.** Толькі праз тыдзень, калі яе сына забралі ў дзіцячы прытулак, вярнулася дамоў пасля запою гора-маці з Бягомля, яе пазбавілі бацькоўскіх правоў, накіравалі ў ЛПП.

**Орша.** На тэрыторыі раёна ля пасёлка Высокае РУП "Беларуснафта" адкрыла 3-ю па ліку ў вобласці сёлета новую сучасную АЗС № 52 з кафэ для вадзіцеляў і міні-пякарняй.

**Глыбокае.** Паблізу граніцы з Латвіяй на Браслаўшчыне пагранічнікі затрымалі 21-гадовага жыхара райцэнтра, хацеў схавацца за мяжой ад адбывання пакарання на "хіміі".

**Паставы.** На працягу тыдня яшчэ двое жыхароў раёна, 89-гадовая пенсіянерка з райцэнтра і 34-гадовы вясковы хлопец загінулі на пажарах, лік ахвяр агню вырас да 8-мі.

**Браслаў.** У гасцях у выкладчыкаў і навучэнцаў Відзаўскага каледжа пабывалі супрацоўнікі Полацкага пагранатрада, іх зводны аркестр даў канцэрт у актавай зале.

**Наваполацк.** Толькі ў апошнім туры чэмпіянату Беларусі па футболе ФК "Нафтан" змог захаваць месца ў вышэйшай лізе, калі клуб "Хімік-СКА" пакінулі два вядучыя ігракі.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# У чым сустракаць і што рыхтаваць на год Пеўня 2017: што павінна быць на святочным стале, як сустракаць Новы 2017 год

■ Канстанцін Паўленка

**У чым сустракаць і што гатаваць на год Пеўня 2017? Зусім мала часу застаецца да прыходу гэтага доўгачаканага свята, як Новы год. Гэта азначае, што падрыхтоўка да яго выходзіць на фінішную прамую. Цяпер важна канчаткова вызначыцца з сервіроўкай стала, а таксама абраць тыя варыянты адзення, якія па душы менавіта вам для сустрэчы свята.**



Нягледзячы на тую акалічнасць, што Певень па ўсходнім календары возьме стырны кіравання ў свае рукі толькі ў канцы студзеня, у Беларусі пра гэта старающь забыць і пачынаюць ушаноўваць новы сімвал у ноч з 31 снежня на 1 студзеня. Як вядома, навагодні стол з'яўляецца вельмі важным атрыбутам для правядзення паўнавартаснага свята. Так ужо павялося ў нашай краіне, што святочнаму сталу надаецца максімальная ўвага. У цэлым жа Новы год для беларусаў — гэта самае любімае і доўгачаканае свята, якое для шмат каго з'яўляецца нейкай надзеяй на шчаслівае жыццё ў далейшым.

### У чым сустракаць 2017 год Пеўня: што надзець на свята

Надыходзячы год пройдзе пад знакам Агністага Пеўня, колер якога абяцае бурныя змены, нечаканыя павароты і штосьці новае. Стыхіяй 2017 года стане агонь, які ўвасабляе чырвоны колер, а разам з гэтым яшчэ і сілу, энергію, моц, рух, лідарства, абнаўленне. Менавіта гэтыя якасці будуць актуальнымі ў людзей на працягу ўсяго наступнага года.

Такім чынам, падчас выбару адзення для сустрэчы свята лепш за ўсё абапірацца на перавагі знака года. Агністы Певень вельмі добра ставіцца чырвонаму, рубінаваму, кармінаваму, пунсоваму, рудому, залатому, барвоваму, малінаваму колерам, з якімі можна спалучаць чорны (глыбокі колер сажы), бліскучы белы, перламутравы, таму менавіта ў гэтых колерах адзення і варта сустракаць год Агністага Пеўня. Акрамя гэтага, гэтыя колеры будуць дарэчныя ў навагоднім інтэр'еры і пры выбары адзення і строяў на навагоднюю ноч. Для тых, хто не жадае ўспрымаць чапурыстасць Пеўня, які любіць класіку, варта ўстрымацца ад земляных і балотных адценняў, таксама яму будуць не даспадобы гарчычны, цялесны, шэры ці бледна-блакітны колер, а таксама жаўтлява-зялёныя адценні.

### У чым сустракаць і што рыхтаваць на год Пеўня 2017

У працэсе выбару колеру пазбягайце пасіўных ці ж, наадварот, вельмі эксцэнтрычных сумесяў. Хай ваш вобраз (ці інтэр'ер) запоўніцца высакароднымі агністымі адценнямі чырвонага, які ў спалучэнні з багатым залатым, навагоднім белым і афіцыйным чорным створаць ідэальны варыянт для святкавання Новага 2017 года.

Святочная ноч з 31 снежня на 1 студзеня — адзіны час у годзе, калі любы макіяж не будзе здавацца празмерным. Таму, нягледзячы на яркія вочы, не адмаўляйце сабе ў задавальненні нафарбаваць вусны чырвонай ці бардовай памадай. Ідэальным выбарам будзе чырвоная сукенка і добра, калі яна будзе кароткай. Падкрэсліць вобраз дапамогуць залатыя аксэсуары ў выглядзе клатча ці пояса.

### Што павінна быць на стале ў Новы 2017 год: сервіроўка стала

Па-першае, гэта стравы, якія ўтрымоўваюць ласункі для птушак: пшаніцу, рыс, розныя крупы, кукурузу. Будуць дарэчныя пяльмені з мясным начыннем, канапэ з рознымі відамі хлеба, сыра, каўбасы, гародніны, з рыбай, крэветкамі і іншымі дарункамі мора. Да месца будзе піца — як самаробная, так і гатовая.

Навагоднія салаты таксама павінны быць не з курыцай, а з іншымі відамі мяса, а таксама з каўбасой, рыбай, морапрадуктамі і г.д. Ну, а каб Агністы Певень прасякнуўся да вас спрыяннем, пасыпце выстаўленыя на навагодні стол салаты дробнымі сухарыкамі.

Стравы з рыбы і мяса спадабаюцца Агністаму Пеўню, асабліва калі вы ўпрыгожыце іх гароднінай яркіх кветак: перцам, морквай, памідорамі. Дарэчная і чырвоная ікра, асабліва на бутэрбродах.

Чым больш садавіны і гародніны на навагоднім стале і чым яны ярчэй, тым лепш. Паколькі татэмны Певень, які спяшаецца да нас — агніста-чырвоны, на святочным стале асабліва дарэчы прысутнасць садавіны і гародніны чырвонага і памяранцавага колераў. Гэта могуць быць фаршаваныя чырвоныя перцы ці памідоры, а таксама любыя яркія агародніннныя салаты. Да месца прыйдуцца і фігуркі пеўнічкаў, выразаныя з морквы і бурака, каб упрыгожыць стравы і стол. З садавіны Агністаму Пеўню спадабаюцца чырвоныя яблыкі і вінаград, а таксама апельсіны і нязменныя навагоднія мандарыны.



# За сабаку небяспечнай пароды ў Віцебску прыйдзецца плаціць 34 рублі 50 капеек у месяц

■ Сяржук Серабро

**Віцебскі гарсавет рашэннем ад 22 лістапада змяніў парадак збірання падаткаў з уладальнікаў сабак: месячная стаўка за сабак небяспечных парод усталявана ў памеры 1,5 базавай велічыні, а за астатніх — 0,3.**



Гэта рашэнне гарсавета ўступае ў сілу з 1 студзеня 2017 года, тады ж у Беларусі базавая велічыня стане роўнай 23 рублям. Такім чынам, уладальнікі сабак, занесеных у пералік патэнцыйна небяспечных парод (а гэта, напрыклад, усходнееўрапейская і каўказская аўчаркі і нават шарпей) павінны будуць кожны месяц заплаціць 34 рублі 50 капеек. За астатніх сабак, па-за залежнасцю ад іх велічыні, штомесяц трэба выкласці 6 рублёў 90 капеек.

# Што прынясе нам год Агністага Пеўня?

**Ужо не адзін знаёмы, цягам апошніх 3 дзён, пытаўся майго меркавання: "Як вы думаеце, чаму Аляксандр Рыгоравіч не паляцеў у Санкт-Пецярбург на саміт ЕАЭС, дзе была падпісаная новая рэдакцыя Мытнага кодэкса?"**

Цяжка сказаць, усяго мы не ведаем. Адно памятаем добра: да падпісання ўсялякіх мытных саюзаў мы, беларусы, жылі худа-бедна – нармальна. "Гоншчыкі" ганялі машыны з Еўропы, заводы працавалі напоўніцу, а працаўнікам своечасова плацілі заробкі, на рынках было процьма народу!. Цяпер мы – у поўнай дупе! Рынкі пустыя! Бядотныя заробкі і пенсіі! Паўсюль – адны банкруты!

Скажу шчыра: баюся аднаго, каб Агністы Певень у Новым 2017 годзе не нарабіў на Беларусі бяды! Каб ён не пусціў нам агню! Каб у нас не ўтварыўся "другі Данбас"!

А што ёсць прычыны хвалявацца? Ёсць! Расійскія СМІ пачалі магутную інфармацыйную атаку на Беларусь. Яны называюць нашу краіну "недогосударством", сцвярджаючы, што 1000-гадовую беларускую мову ў 1926-м годзе, насамрэч, прыдумалі бальшавікі, а беларусы – частка рускага народа. Трэба, мауляў, аднавіць гістарычную справядлівасць, калі не добраахвотна, то вайсковай сілай далучыць Беларусь да Расіі. Беларусы не маюць права на сваю дзяржаву! Яны павінны быць рускімі!

На фоне расійскіх няўдач ва Украіне, шматлікіх катастроф, забойства пасла, праблем у эканоміцы, Расіі цяпер патрэбная маленькая бяскроўная "победоносная" вайна, каб узняць у вачах расіян згасаючы рэйтынг існай расейскай улады. Каго пайсці "вызваляць"? Напрыклад, рускамоўных беларусаў ад "прыгнёту" беларускамоўнымі беларусамі! Накшталт, як ва Украіне "вызвалялі" Данбас ад няісных там "бандэраўцаў"!

І хто будзе бараніць нашу краіну? Рускамоўная беларуская армія з рускімі афіцэрамі? Сумняваюся! Каб яшчэ і з кветкамі не сустрэлі "вызваліцеляў"!

Усе гэтыя два дзесяцігоддзі незалежнай Беларусі адно толькі і рабілася, каб не было тут патрыётаў, таму пераводзіліся школы на рускую мову, скарачаліся часы выкладання беларускай мовы і літаратуры, гісторыю і геаграфію Беларусі пераводзілі на мову суседа.

Напярэдадні саміта дырэктар Расійскага інстытута стратэгічных даследаванняў пры прэзідэнце Расіі генерал-лейтэнант Леанід Рашэтнікаў заклікаў: "Беларусы, адумайцеся!"

А гэта ўжо трывожны сігнал! Хацелася б верыць, што гэтыя сігналы ў 2017-м, усё ж, затухнуць!

*Ул. Скрабатун.*

# Лукашэнка адобрыў праекты пагадненняў па ўдзеле Беларусі ў праграмах трансгранічнага супрацоўніцтва ЕС

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка адобрыў у якасці асновы для правядзення перагавораў праекты пагадненняў, якія забяспечваюць удзел Беларусі ў праграмах трансгранічнага супрацоўніцтва Еўрапейскага саюза. Адпаведныя ўказы кіраўнік дзяржавы падпісаў 23 снежня, паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе беларускага лідара. У прыватнасці, адобраны праекты пагадненняў аб фінансаванні трансгранічнага супрацоўніцтва праграм "Латвія - Літва - Беларусь" і "Польшча - Украіна - Беларусь" па лініі Еўрапейскага інструмента суседства на 2014-2020 гады. Міністэрства замежных спраў упаўнаважана на правядзенне перагавораў па праектах пагадненняў і іх падпісанне.

*БелТА.*

# Узровень пажарнай бяспекі правераных суб'ектаў

**У лістападзе інспекцыяй нагляду і прафілактыкі Глыбоцкага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях праведзены праверкі ўзроўню пажарнай бяспекі суб'ектаў. За выяўленыя парушэнні на дадзеных суб'ектах да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнуты іх кіраўнікі і службовыя асобы.**

Так пры праверцы карпаратыўнага рамонтна-будаўнічага унітарнага прадпрыемства **"Глыбоцкая перасоўная механізаваная калона"** ўсталявана: аб'екты прадпрыемства не абсталяваны ўсталёўкамі пажарнай аўтаматыкі; на вонкавым боку дзвярэй (варот) складскіх памяшканняў часткова адсутнічаюць указальнікі катэгорыі па выбухапажарнай і пажарнай небяспецы і клас зоны па ПУЭ; адсутнічаюць самавывальнікі; ля ўезду на тэрыторыю дрэваапрацоўчай вытворчасці, на будаўнічай пляцоўцы не вывешаны схемы з нанесенымі на ёй як дзейснымі, так і з будынкамі, якія ўзводзяцца і часавымі будынкамі (збудаваннямі), уездамі, пад'ездамі, пажарнымі праездамі, месцазнаходжаннем крыніц супрацьпажарнага водазабеспячэння; на тэрыторыі прадпрыемства ў супрацьпажарных разрывах допушчаецца складаванне гаручых матэрыялаў; праверка ўнутранага супрацьпажарнага водазабеспячэння праводзіцца не ў поўным аб'ёме.

**Філіял Глыбоцкае ДРБУ №145 КУП "Віцебскаблдарбуд"** – адміністрацыйны будынак не абсталяваны аўтаматычнай пажарнай сігналізацыяй; не ўсе аб'екты прадпрыемства абсталяваны маланкаабаронай; частка першасных сродкаў пажаратушэння знаходзіцца ў няспраўным стане; пажарны вадаём не абсталяваны пляцоўкай для ўсталёўкі пажарных аўтамабіляў. Не арганізавана навучанне працаўнікоў па праграме пажарна-тэхнічнага мінімуму; не арганізуюцца практычныя трэніроўкі па адпрацоўцы плану эвакуацыі.

*Інспекцыя нагляду і прафілактыкі Глыбоцкага РАНС.*



**Фадзей Шымуковіч,** *педагог, пенсіянер, г. Дзісна*

# Эх! Тачанка-Растаўчанка!

Яшчэ са школьнай лаўкі на ўроках гісторыі мы знаёміліся з такімі гістарычнымі фактамі, як ужыванне ў ваеннай справе прыручаных дамашніх жывёл – коней, сланоў. Непераможны Аляксандр Македонскі дастаткова паспяхова выкарыстоўваў конніцу, але калі яго кавалерыя сутыкнулася з баявымі сланамі, коні з перапуду павярнулі назад і, не падпарадкоўваючыся волі седакоў, пусціліся наўцёкі. Бітва была прайграная.

Тактыка ўжывання коней са старажытных часоў – баявыя калясніцы; сярэдні век – коні і рыцары, закутыя ў жалезныя даспехі мелі сваёй мэтай прывесці ў стан страху ворага, прымусіць яго да бегства і атрымаць перамогу. Але самымі эфектыўнымі былі буйныя воінскія групы, якія складаліся з добра навучаных кавалерыйскіх войскаў.

У час першай сусветнай вайны, асабліва ў час грамадзянскай вайны, вялікім поспехам карысталіся тачанкі. Яны ўяўлялі сабой дастаткова простую баявую рухомую зброю, якая складалася са звычайнай тачанкі, запрэжанай тройкай добрых коней, на якой на заднім сядзенні замацоўваўся станкавы кулямёт сістэмы "Максім", неабходным запасам патронаў (кулямётных лентаў) і, пры неабходнасці, запасам вады для сістэмы ахалоджвання ствала кулямёта. Экіпаж – тры чалавекі: ездавы, які кіруе коньмі, першага і другога нумароў кулямётчыкаў.



**Тачанка.** *Фота Алы Мароз.*

Першыя такія грозныя мабільныя "ўстаноўкі" з'явіліся ў войсках бацькі Махно. Калі чытач успомніць кінафільм "Адъютант его превосходительства", то ўспомніць і такую тачанку, на заднім борце якой вялікімі літарамі быў надпіс: "Бі белых, пакуль не пачырванеюць! Бі чырвоных, пакуль не пабялеюць!" Гэтыя махноўскія тачанкі бацьку Махно дапамагалі вырашаць вынік бою на сваю карысць. Нечакана з'яўляючыся на флангах, а то і тыле ворага, прыводзілі яго ў збянтэжанасць, а то і сеялі паніку.

Шырокае ўжыванне знайшлі тачанкі і ў Першай коннай арміі. Конармейцы прымянялі новую тактыку выкарыстання гэтай мабільнай і моцнай зброі. Дастаткова часта кавалерыйскім эскадронам і палком даводзілася вырашаць баявыя задачы ў так званым сустрэчным баі, калі абодва бакі рашаюць баявую задачу ў наступаючым баі, гэта значыць, і адзін, і другі бок шашкі на "гало" і на ўвесь апор лавінай нясецца на праціўніка, пры сустрэчы пачынаецца сапраўдная шашачная бітва – хто каго. Такая бітва, незалежна ад таго, хто пераможа, багата стратамі з абодвух бакоў.

Камандзіры Першай конарміі прыдумалі прасты, але вельмі эфектыўны прыём сустрэчнага кавалерыйскага бою. Эскадрон, або нават цэлы кавполк у баі "лавай" на поўным галопе з шашкамі на "гало" нясецца на праціўніка, які ў такім жа баявым парадку нясецца на цябе. Ззаду кавалерыстаў нясецца тры-чатыры тачанкі. На адлегласці 400-500м, у раней вызначаным месцы, нашы кавалерысты паварочваюць назад, імітуючы адступленне, вызваляючы месца тачанкам. Тачанкі на поўным ходзе разварачваюцца на 180 градусаў і з усіх кулямётаў адкрываюць знішчальны агонь метраў з 150-200 па суцэльнай лаве ворага. Масавае падзенне не толькі кавалерыстаў праціўніка, але і коней, перашкаджае шлях заднім. Праціўнік нясе вялікія страты, ён страчвае магчымасць атакі і стараецца павярнуць назад. У гэты час каманда кулямётам спыніць агонь. Зараз наша кавалерыя ўсімі сіламі навальваецца на ворага і завяршае яго разгром. Мы мала пішам і гаворым аб гэтым. Нават цудоўную песню "Тачанка" забыліся.

Я па матэрыялах успамінаў камандзіраў часоў грамадзянскай вайны, мемуарах, творах мастацкай літаратуры, нямногіх малюнкаў і кіно пастараўся ўзнавіць вобраз гэтай грознай зброі тых часоў і зрабіць макет тачанкі. Не ведаю, наколькі мне гэта ўдалося, а таму я вырашыў гэта прапанаваць на суд чытачоў. Буду ўдзячны, калі чытачы знойдуць недакладнасці і паправяць мяне. Лічу, што падобныя макеты не толькі змаглі б упрыгожыць школьныя, гарадскія і, нават, раённыя музеі, але і дэманстраваць тую зброю, пры дапамозе якой нашы продкі дабіваліся перамог. Упэўнены ў тым, што гэта таксама дастойны крок у сувязі пакаленняў.



**Папялушка.** *Фота Алы Мароз.*



**Лебедзь, рак і шчупак.** *Фота Алы Мароз.*




**Фадзей Шымуковіч у двары сваёй сядзібы.** *Фота Алы Мароз.*



**Воўк і журавель.** *Фота Алы Мароз.*



# Віншаванкі

## Надзею Маліноўскую

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Счастье ей предсказано,
Коль Надеждой названа.
Сразу видно, без оглядки —
Не из робкого десятка.



Только глазом поведет —
Всех вокруг с ума сведет.
Так и хочется общаться,
Обаяньем восхищаться.

Пожелать хотим удачи
И большой шикарной дачи.
Пусть любимый обожает
И заботой окружает.

*Рэдакцыя "ВГ".*

## Крысціну Вітольдаўну Мацюшонак

**Віншуем з Днём нараджэння!**

День рожденья – хорошая дата,
И неважно, сколько вам лет.
Было вам и 17 когда-то,
Но не стоит об этом жалеть.
Эти годы все так же прекрасны,
Вы в кругу своих близких друзей,
Вам желаем здоровья и счастья,
Много солнечных, радостных дней!
Пусть лицо озаряет улыбка,
Пусть не старят морщинки у век:
Возраст – это большая ошибка,
Если молод душой человек.



*"Калектыў "ВГ"*

## Надзею Маліноўскую

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Няхай не толькі ў гэта свята
Усмешка на вуснах гарыць,
У жыцці будзе грошай багата,
А кожны дзень шчасцем звініць!



Мы ў дзень нараджэння жадаем,
Кахання, жаночых прыгод,
І сэрца хай песні спявае
Яшчэ для цябе цэлы год!

*Тата, мама*

## Надзею Маліноўскую

**Віншуем з Днём нараджэння!**

С днем рожденья тебя поздравляем
И хотим в этот день пожелать,
Чтоб светила всегда звезда счастья
И не смела вовек угасать.
Мы желаем здоровья, успехов,
Чтоб любовь твоя светлой была,
Чтобы люди тебе улыбались
И река твоей жизни текла.
Мы желаем тебе не встречаться
С горем, разлукой, изменой
И желаем всегда оставаться
Доброй, красивой, верной.



*Сястра Наталля, дачка Насця.*

## МНС інфармуе

**на 27.12.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 699;
Гібель людзей – 88, з іх 1 дзіця;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 20;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма
За 2015 год у раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінулі 3 чалавекі.

*Прафілактычная акцыя:*

# "Дзе прытон – наведай гэты дом!"

**За 2016 год канфіскавана 1098 літраў фальсіфікаваных спіртных напояў.**

**А.І. Гігола,**
*начальнік ААПП Глыбоцкага РАУС*

**Вынікі 2016 года:**

**Па вобласці** да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута 1372 грамадзяніна па арт.12.43 КоАП Рэспублікі Беларусь (Выраб ці набыццё моцных алкагольных напояў (самагонкі), паўфабрыкатаў для вырабу (брагі), захоўванне апаратаў для іх вырабу) і па арт. 12.27 КоАП Рэспублікі Беларусь (Незаконнае перасоўванне, захоўванне тытунёвых вырабаў і алкагольных напояў, вытворчасць, перапрацоўка, захоўванне, перасоўванне нехарчовай спіртазмяшчальнай прадукцыі, этылавага спірту, тытунёвай сыравіны, рэалізацыя гэтай прадукцыі, спірту, сыравіны і алкагольных напояў), канфіскавана 29.247 літраў фальсіфікаваных спіртных напояў, самагонкі і самагоннай брагі, канфіскавана 168 самагонных апаратаў.

**Па Глыбоцкім раёне:** да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута 58 грамадзян, канфіскавана 1098 літраў фальсіфікаваных спіртных напояў, самагонкі і самагоннай брагі, знішчана 18 самагонных апаратаў. 4 чалавек загінула ад атручвання этылавым алкаголем і 2 у выніку ўжывання шклоачышчальніка.

З 25 па 30 снежня 2016 года на тэрыторыі Глыбоцкага раёна з мэтай прафілактыкі злачынстваў і правапарушэнняў супраць жыцця і здароўя грамадзян, асабліва здзяйсняных у месцах зборышчаў асобаў асацыяльных паводзін, праводзіцца прафілактычная акцыя **"Дзе прытон - наведай гэты дом!".**



**Вёска Наносы (Мядзельскі р-н), Музей самагонаварэння. Мабільны самагонны апарат.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

# Як прадухіліць абмаражэнне

**С.В.Скіпар,**
*галоўны дзяржсанурач Глыбоцкага раёна.*

Абмаражэнне – гэта парушэнне цыркуляцыі крыві ў якой-небудзь частцы цела (часцей за ўсё ў канечнасці) пад уплывам нізкай тэмпературы. Найболей часта абмаражэнне ўзнікае ўзімку, калі тэмпература навакольнага асяроддзя апускаецца ніжэй мінус 10-15 градусаў. Калі вы доўга знаходзіцеся на вуліцы, асабліва пры моцным ветры і падвышанай вільготнасці паветра, то рызыкуеце атрымаць абмаражэнне нават увесну і ўвосень пры плюсавай тэмпературы.

Выкананне некалькіх нескладаных правіл засцеражэ вас ад пераахаладжэння і абмаражэння. Апранацца ўзімку вам варта так: сподняя адзежа павінна быць выраблена з баваўны, паколькі яна выдатна ўбірае вільгаць; другі пласт абавязкова павінен складацца з поўсці, якая добра саграе і ўтрымлівае цяпло; трэці пласт – ветраахоўная вільгаценепранікальная куртка з каптуром. Аддавайце перавагу вольнаму і лёгкаму адзенню, паміж пластамі якой заўсёды прысутнічаюць праслойкі паветра, якія выдатна ўтрымліваюць цяпло. Ваш абутак павінен быць прасторным, па-над баваўнянымі шкарпэткамі абавязкова апранайце ваўняныя. Усярэдзіне павінны ляжаць сухія вусцілкі (стелькі). У халодную пару года не выходзьце на вуліцу без шапкі, шаліка і рукавіц з воданепрымальнай тканіны з мехам усярэдзіне. Перад тым, як вы збіраецеся выйсці на мароз, паешце і вазьміце з сабой тэрмас з гарачым чаем. Плануючы правесці на холадзе цэлы дзень, абавязкова захапіце з сабой швэдар і запасныя шкарпэткі.



Для таго, каб пазбегнуць абмаражэння, часцяком досыць своечасова перапрануцца ў сухое адзенне. Падчас шпацыру, адчуўшы, што замярзаеце, як мага хутчэй ідзіце туды, дзе цяпло: у кафэ, краму, пад'езд жылога дома. Там вы сагрэецеся і, тым самым, пазбегнеце непрыемнасцяў, звязаных з абмаражэннем. Акрамя таго, падчас працяглага знаходжання на марозе перыядычна карысна з'ядаць штонебудзь каларыйнае. Ужо праз некалькі хвілін пасля прыёму ежы вы адчуеце прыемны прыліў энергіі, і вам стане цяплей. Перад выйсцем з дома зніміце з сябе ўсе металічныя ўпрыгожванні. Кольцы на пальцах робяць цяжкай натуральную цыркуляцыю крыві, а завушніцы могуць прыліпнуць да мочак вушэй і выклікаць балючыя адчуванні, аж да траўміравання далікатнай скуры. Падчас моцнага марозу ні ў якім разе не курыце на вуліцы. Па-першае, вы рызыкуеце абпаліць верхавіны лёгкіх, і, па-другое, курэнне змяншае цыркуляцыю крыві ў канечнасцях і робіць іх больш уразлівымі да холаду.

Ужыванне ж моцных спіртных напояў падчас зімовых халадоў – наўпросты шлях да абмаражэння. Алкагольнае ап'яненне падступна тым, што выклікае ілюзію прыліву цяпла, а насамрэч, прыняўшы "на грудзі", вы цяпло губляеце. Мала таго, вы ўжо не можаце адэкватна кантраляваць сваё самаадчуванне. Калі ж вы празмеру захопіцеся "сагграваннем" алкаголем, то рызыкуеце навекі заснуць у якой-небудзь гурбе.

Инспекция Министерства по налогам и сборам Республики Беларусь по Глубокскому району информирует.

**Внимание плательщиков!**

# Налоговые вычеты в 2017 году по налогу на добавленную стоимость (НДС) будут производиться исключительно на основании электронных счетов-фактур (ЭСЧФ).

**Законом Республики Беларусь от 18.10.2016 № 432-З «О внесении изменений и дополнений в Налоговый кодекс Республики Беларусь» уточняется механизм применения электронных счетов-фактур.**

Так, с 1 января 2017 года в целях осуществления расчетов по НДС и применения налоговых вычетов по указанному налогу будут использоваться только электронные счета-фактуры, в связи с чем отсутствие данного электронного документа не позволит покупателю принять к зачету предъявленную сумму НДС.

Первичные учетные документы в целях осуществления налоговых вычетов по НДС применяться не будут.

При этом, чтобы защитить интересы добросовестных плательщиков, в следующем году к плательщикам, которые не будут выставлять электронные счета-фактуры, могут быть применены меры административного взыскания.

В свою очередь, в случае невозможности выставления (направления) электронных счетов-фактур в связи с недоступностью либо ограничением работоспособности Портала электронных счетов-фактур плательщики будут обязаны не позднее пяти рабочих дней со дня возобновления работоспособности Портала выставить (направить) электронный счет-фактуру.

Дополнительная информация: **http://www.nalog.gov.by/ru/electronic_invoice_ru/**
**http://www.vat.gov.by/**

